Год I. Лістапад. № 8.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 8:



„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . 35 гр.

„ на паўгода . . . . . . 2 зл.

„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.

Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.

Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год I. | ВІЛЬНЯ, — ЛІСТАПАД 1929 Г. | № 8. |
|---|---|---|

## 400-лецьце Літоўскага Статуту.

(30.XI.1529—30.XI.1929).

Ужо ў XIII ст. Беларусь злучылася з Літвой і ўвайшла ў склад Літоўскай дзяржавы. Супольнае літоўска-беларускае аб'яднаньне трывала аж да другой паловы XVI ст., да Люблінскай Уніі 1569 г. Час гэты станавіў сапраўды сьветлую пару ў гісторыі гэтых абодвых народаў. Літоўцы і Беларусы стварылі адну супольную дзяржаву больш паразуменьнем і ўзаемным інтарэсам, як вайной. У супольнай літоўска-беларускай дзяржаве панавала поўная свабода веры і культуры. Беларусы, прыняўшы хрысьціянства ў X ст. з усходня-хрысьціянскай Візанцыі, паволі прымалі ад яе також навуку, цывілізацыю і культуру. Літвіны ж да 1386 г. былі паганамі і культурна стаялі ад Беларусаў шмат ніжэй. Аднак Беларусы не пакідалі ім ані сваей веры, ані культуры, ані мовы. Літвіны ўсё гэта прымалі самі дабравольна. У канцы XIV ст. больш як 50 літоўскіх розных князёў ужо трымаліся ўсходня-хрысьціянскай веры, а мова беларуская праз увесь час існаваньня літоўска-беларускай дзяржавы была мовай урадавай, дзяржаўнай. У гэтай мове судзілі, кіравалі дзяржавай, гаварылі: народ, магнаты, а нават князі. Так напр. вялікі князь літоўскі Ягайла, як кажуць гісторыкі, гаварыў выключна пабеларуску.

У 1386 г. адбыўся хрэст Літвы і, дзеля ўнутраных небясьпекаў, наступіла першая ўнія з Польшчай. Паводле ўмовы кароль польскі мусіў быць аднačасна і вялікім князем літоўскім, а Польшча і Літва з Беларусяй мела станавіць адну супольную дзяржаву. Але жыцьцё дыктавала што іншае. Літоўска-беларускі край меў пераважна сваіх асобных вялікіх

князёў і кіраваўся сам сабой, сваім соймам у Вільні, сваімі законамі. Літоўска-беларускае аб'яднаньне і фактычная незалежнасьць краю трывала аж да Люблінскай Уніі.

Ад часоў Вялікага Князя Вітаўта ўстанавіўся звычай, што вялікі князь, трымаючы кіраўніцтва краем, прыракаў захаваць правы яго даўнейшыя, а такжа часта надаваў новыя. Вось гэтымі правамі і кіравалася Вялікае Князьства Літоўска-Беларускае.

Але гэткага роду права было ня поўнае і мала даступнае для практычнага карыстаньня.

Вось-жа стараньнем літоўска-беларускай шляхты быў апрацаваны кодэкс права Статут Літоўскі, прыняты на Віленскім Сойме 17(30) лістапада 1529 г., пазьней названы першым, або старым.

Назова гэтага Статуту: літоўскі — палітычная. Усе беларуска-літоўскія землі зваліся Вялікім Князьствам Літоўскім, бо Вялікія Князі, як прадстаўнікі найвышэйшай улады, былі Літоўцы. Дзеля гэтага і законы нашага краю зваліся літоўскімі.

Першым Статутам да выданьня другога новага ў 1566 г. кіраваўся край наш на працягу 37 гадоў. Праз увесь гэты час існаваў ён у рукапісі напісанай па беларуску. Друкаваны ня быў ніколі. У рукапісі дайшоў ён аж да пач. XIX ст. і ў 1841 г. быў надрукаваны ў Пазнані ў „Zbiory praw Litewskich", а ў 1854 г. быў надрукаваны ў „Временник'у» Маскоўскага „Общества исторіи і древностей".

І так 30 лістапада сёл. г. мінае 400 гадоў ад часу, калі першы Літоўскі Статут быў прыняты нашым Соймам у сталіцы літоўска-беларускай дзяржавы ў Вільні.

Гэтыя так рэдкія ўгодкі — гэта вялікае беларускае культурнае сьвята.

Статут гэты, як на той час, быў дужа высокім культурным здабыткам нашага краю; такіх законаў могбы пазавідваць тады не адзін народ у Эўропе. Падобных законаў ня было так-жа і ў Польшчы.

Першы Літоўскі Статут, праўда, меў на воку прадусім інтарэсы шляхты, якая ў той час была пану-

ючай клясай, але апрача гэтага браў ён такжа пад увагу і інтарэсы ўсей дзяржавы і ўсіх жыхароў яе. Найцікавейшым ў гэтым Статуце для нас будзе тое, што ў ім Вялікі Князь Літоўскі прыракае сьцерагчы граніц дзяржавы і павялічваць іх, а так-жа, што Статут гэты палякоў уважаў за чужынцаў, дзеля гэтага не дазваляў ім займаць у Літоўска-Беларускай дзяржаве ўрадавых пасад, а так-жа набываць зямлі. З гэтых артыкулаў Статуту бачым самастойнасьць Вялікага Князьства Літоўскага і імкненьне да яе абароны. Першы Літоўскі Статут, як кодэкс праўны, гэта — прадукт двух народаў: Літоўскага і Беларускага, але як кніга пісаная ў беларускай мове — гэта здабытак беларускай культуры з залатой пары яе.

Першы Літоўскі Статут лёг у аснову другога (1566), а пасьля і трэцяга (1588), які далей абавязываў на літоўска-беларускіх землях, як пасьля Люблінскай Уніі 1569 г. так-жа і пасьля падзелу Польшчы, калі мы былі пад Расеяй, аж да 1840 г.

Словам, 400-лецьце першага Літоўскага Статуту — гэта вялікае беларускае культурнае сьвята. Яно вымоўна нам гавора, на што здольны беларускі народ. Яно вуча нас так-жа, што ўскрэшана ў памяці народу слаўная мінуўшчына — залог яго будучыні.

*А. Сакалінскі.*

# Крыху аб сучаснасьці.

Пішу „крыху" дзеля таго, што ўсяго, што цяпер у нас у Заходняй Беларусі дзеецца, трудна нават „на валовай скуры апісаць", як кажа беларуская прыказка, а так-жа дзеля таго, што апісваючы ўсё, як ёсьць, апісаць праўду, якая коле ў вочы, можа пацярпець наш рэдактар і бедная каса Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху Моладзі".

Глянуўшы на беларускі народ, убачым, што ён увесь працоўны. Пасярод яго няма беларускіх капіталістаў, абшарнікаў, буржуяў, — іх мейсца займаюць такія польскія, расейскія ды жыдоўскія. Беларускі народ — гэта парабкі, беззямельнікі, батракі, сярэднякі, працоўная інтэлігэнцыя, работнікі, жывучыя з працы свайго мазаля, з працы сваіх рук.

Уся наша працоўная маса знаходзіцца ў вельмі благіх абставінах. Перадусім ня мае яна сваей роднай беларускай школы. Наш беларускі парабак, каторы сваей мазалістай рукой цяжка працуе на гулянкі абшарніка Паляка, ці Расейца, жыве ў недастатку матэр'яльным і духовай няволі. Калі ён выразіць думкі аб паправе свайго жыцьця, яго зараз-жа робяць бальшавіком, камуністым, нават калі скажа, што ён Беларус, дык і за гэта стараюцца яго як-небудзь пазбыцца.

Наш беззямельнік, пралетар кінуты на ласку лёсу, кідаецца ўва ўсе бакі. Ідзе працаваць да двара, ці да асадніка ці да польскага шляхціца, зарабляючы за дзень толькі якіх-небудзь паўтары залатоўкі.

Батракі маюць столькі зямлі, што ня могуць працуючы на ёй зарабіць на кавалак чорнага хлеба і іх такі самы лёс спатыкае, як беззямельнікаў. Адным-жа і другім зямлі не даець урад, а купіць няма спосабаў.

Сяляне сярэднякі маюць нібы гаспадаркі, але ня маюць магчымасьці на гэтых гаспадарках жыць, не пазваляюць ім на гэта вялізарныя падаткі, ды цяжкое гаспадарчае палажэньне, якое пануе ў Польшчы. Урадавай помачы Беларусу трудна дастаць.

Беларускія інтэлігенты такжа пазбаўлены якой-колечы адпаведнай ім працы. Іх мейсца займаюць „галілеушы" і іншыя Палякі.

Уся вышэй пералічаная вясковая працоўная маса ды нават інтэлігенты ідуць часта ў меставую работніцкую гушчу, каб зарабіць сабе на кавалак хлеба, з малатком ці іншай прыладай у руках. Тут яны перадусім напатыкаюць: безработцьце, якое пануе і пашыраецца, прасьлед з боку польскіх, расейскіх ды жыдоўскіх капіталістаў, а так-жа з боку польскіх нацыяналістаў работнікаў, каторыя прыбыўшы ў наш край захапілі месца працы, маючы апору у сваіх багатыроў.

Не гаворачы ўжо аб паступках адміністрацыйных уладаў, которыя з нас кажды адчувае, усё вышэйсказанае вельмі добра сьведчыць аб сучасным палажэньні Беларусаў пад Польшчай.

Страшна так-жа церпіць беларуская моладзь, пазбаўленая нармальнага жыцьця, развою і роднай школы.

Выхад-жа з гэтага адзіны — наша супольная праца для агульнага дабра беларускага народу.

Аднак не адзін скажа, як можна працаваць для агульнага дабра, калі самому ня можна пражыць. Вось змагаючыся за свае асабістыя жыцьцёвыя правы, змагаемся за правы сваіх суседзяў і братоў. Каб-жа гэтае змаганьне лягчэй ішло, мы павінны дзеля гэтага праводзіць яго супольнымі сіламі.

Ведама, што і так цяжка, бо ў нашым краі найменшая майстроўня ў чужацкіх руках, трудна знайсьці якуюнебудзь працу, ды-й промысл у нас вельмі не разьвіваецца, бо тыя людзі, якія трымаюць яго ў руках, увесь зыск, замест пускаць на расшырэньне промыслу ў нашым краю, вывозяць у сваю старану.

Вось-жа, мы Беларусы, павінны гэта ўсё добра зразумець і вясьці інтэнсыўнае змаганьне за палепшаньне сваей долі.

Калі трудна правясьці вялікую працу ў гэтым кірунку, то трэба вясьці хоць тую, якую можам, але пэўна, станоўча і паступова. І так кожны, а моладзь перадусім павінна спэцыялізавацца: хто за земляроба, хто за каваля, сталяра, краўца, сьлёсара ці інш., і паступова, калі не паасобку, то супольна браць у свае рукі майстроўні, а ад майстроўняў ісьці далей.

Разумеецца, што ўсе тыя асобы, якія маюць якую работу, каторай самі ня могуць выканаць, мусяць аддаваць у майстроўню сваю беларускую. Адным словам: „свой да свайго па сваё“.

Дык усе разам стойка змагаймася за свае жыцьцёвыя правы!

Я. Н

# Вадой да возера Нарач.

(З летняй турыстыкі.)

Адклікаючыся на артыкул М. І-ча ў № 5 „Шляху Моладзі“, хачу сказаць пару слоў аб аднэй турыстычнай экскурсіі, каторая адбылася сёлета ў Зах. Беларусі і паміма свайго даволі паважнага характару дагэтуль нават ня ўспомнена ў прэсе.

Думка, зладзіць у часе летніх вакацыяў турыстычную экскурсію, паўстала сярод некаторых вучыцялёў праваслаўнае дух. сэмінарыі яшчэ вясной сёлетняга году. Калі-ж прыйшло да яе зьдзейсьненя, то плянаваны склад экскурсыі зьмяніўся і цяпер складалі яе 2 вучыцялі памянёнае сэмінарыі і 1 матурыст. ВБГ. Мэтай экскурсыі было дастацца водным шляхом з м. Крывіч у возера Нарач, дзеля чаго і была прыстасована адпаведная лодка з патрэбным інвэнтарам, як: прымус, чайнік, скварада, кубкі і т. д.

17 ліпня 1929 г., калі надвор‘е найменш адпавядала якімнебудзь падарожным плянам, бо імжыў дробны дождж, вырушылі мы на пласкадонцы па рацэ Сэрвач у дарогу. Ужо з самага пачатку, ня гледзячы, як я ўжо казаў, на кепскае надвор‘е, мы не пажалелі выпаўненьня свайго пляну — ды і праз цэлы час падарожніцтва (бязмала 2 тыдні) нічога падобнага ня здарылася. Дождж нам вельмі не дакучаў, бо йшоў перарывамі, каторыя мы заўсёды маглі перачакаць

пад навісшай над вадой вярбой ці вольхай, ня вылазячы нават з лодкі. Затое кругом разнасіўся прыемны аромат сьвежаскошанага сена і за паваротамі адкрываліся, здавалася, што-раз прыгажэйшыя краявіды. Не ад рэчы будзе тут успомніць першае наша прыстанішча, калі мы вылезьлі на бераг аглядаць старадаўныя швэдзкія акопы. Тут у інформацыйным сэнсе нам шмат памагла кніжка Сапунова і Друцка-Любэцкага аб Вялейскім і Дзісьненскім паветах. Яна, плюс мапа Віленскага ваяводзтва, — былі нашымі незаменнымі прыяцелямі ў падарожы.

Ехалі даволі хутка, дзеля таго, што гэтаму памагаў бег вады (уніз па рацэ). Двое веславалі, а трэці сядзеў за кіруном ды сачыў за правільным ходам лодкі. На Сэрвачы трэ' было нам глядзець, каб ня сесьці на мель, а на Вяльлі да гэтага далучыліся падводныя каменьні і вялікая колькасьць дубовых карчоў. Далікатную нашу пласкадоначку, зазяваўшыся, вельмі лёгка было-б разхрамастаць аб падводныя перашкоды і тады-б задуманы плян ня споўніўся. З другога боку пласкадонны характар нашае лодкі быў вельмі прыгодны на вялікіх мелях, якімі асабліва багата Вяльля ў сваім верхнім цячэньні. У часе язды лавілі на блісьню шчупакоў і гатавалі на прымусе страву. У тых мясцох, дзе былі млыны, прыходзілася разгружаць лодку і пераваланіваць на другі бок мосту. Начавалі ў якой небудзь прыбярэжнай вёсцы ці хутары на сене ў пуні. Пры кожным выхадзе на бераг, знаёміліся з прыроднымі асаблівасьцямі ваколіцы і языковымі розьніцамі ў гутарцы жыхароў. Трэба адзначыць, што за ўвесь час падарожы мы ня разу не пачулі польскае мовы, за выняткам камэнданта паліцыі ў Іжы, катораму закарцела нас вылегітымаваць. Мясцовасьці, каторыя міналі, былі надзвычай прыгожыя і некаторыя, як напр., Тышкевічава Пляса на р. Вяльлі заслугоўваюць на спэцыяльную ўвагу.

Характар падарожа крыху зьмяніўся пры ўезьдзе ў р. Нарачанку. Цяпер трэ' было ехаць пад ваду і дзеля шпаркае плыні даволі шмат працаваць. Дзеля гэтага кіруновы часта пакідаў сваё становішча і ўзяўшы даўгі прыс у рукі, памагаў веслаўніком. Надвор'е ў далейшыя дні было як ня трэба лепшае і плысьці дзеля гэтага было вельмі добра. Разьвіваўся гарт цела, сутыкаючыся беспасярэдна з гарачымі праменьнямі сонца і асьвяжаючай вадой у часе ня рэдкіх купаньняў. Мускулы заметна пабольшыліся і акругліліся. Наагул, здароў'е дапісывала як найлепей і амаль кожная гутарка перапляталася здаровым гумарам. Разьвілася і вытрываласьць у змаганьні з перашкодамі, якія ў постаці меляў і дзівосных выкрутасаў ракі, спатыкаліся вельмі часта. Было аднак і выкарыстана ўсё, што магло нам аблягчыць заданьне, як напр., вецер. На Нарачанцы, ужо недалёка ад возера, ён аказаў нам нязвычайныя ўслугі, гонячы

пад парусам лодку з шпаркасьцю маторнае. Гэты-ж парус прыгадзіўся нам і на возеры Нарач, дзе мы рызыкавалі зусім непатрэбна выкупацца ў адзежы, прадпрымаючы небясьпечны пераезд у часе красаваньня белых баранчыкаў на грэбенях хваль.

Да возера Нарач даехалі на 9-ты дзень, г. зн. 25 ліпня 1929 году. На гэтым аднак экскурсія не закончылася, бо з Нарача па праліву Скеме мы пераехалі ў воз. Мястра, на берагох каторага ляжаць Стары і Новы Мядзел. На Мястры кончыўся наш водны шлях, які лічыць больш 200 км. Цяпер прышлося замкнуць кола сухім шляхом, пагрузіўшы лодку на воз і вярнуўшыся на месца выезду за 35 км. Перад гэтым, карыстаючы з гасьціннасьці мясцовага сьвяшчэньніка К., не абмінулі мы прабыць дні 3 ў гэтай вазёрнай ваколіцы і адведаць вельмі цікавы старадаўны магільнік „Малатоўкі“ ля в. Навасёлкі.

Цяпер астаецца падлічыць рэзультаты экскурсіі. Вось яны: прыемны адпачынак пасьля ўмысловай працы, злучаны з карысным расшырэньнем пазнаньняў аб Бацькаўшчыне, жменя фатаграфіяў цікавейшых мясцовасьцяў і ўспаміны супольна перажытых падзеяў і розных эмоцыянальных здарэньняў экскурсіі, а самае галоўнае, гэта — узбуджаная ахвота да новых экскурсіяў, багацейшых і разнараднейшых сваім зьместам. **Ч. Х.**

# З газэт.

## „Малы гісторык.“

Украінская часопісь для дзяцей „Світ Дитини“ № (10, 1929 г.) зьмясьціла артыкул: „Про те, як Украіна была під владою Литви й Польщі“. Артыкул гэны падпісаў нейкі — Малий історик, які тлумача там між іншым гэткія фацэціі:... „За ўлады Літвы ўсюды гаманіла ўкраінская мова, бо й літоўскія князі гаварылі гэтай мовай, пісалі свае пісьмы, і ўрадавалі па ўкраінску ўсе галоўныя літоўскія ўрады. Усе законы, сабраныя ў кнізе пад наз. „Літоўскі Статут“ былі напісаны мовай украінскай“...

Вось-жа падаём да ведама „Малога гісторыка“, што ў даўнейшай Літве, да якой належалі і Беларусы і Украінцы, урадавай мовай агулам была мова беларуская, што „Літоўскі Статут“ быў пісаны мовай беларускай, што некаторыя князі літоўскія так-жа гаварылі ня мовай украінскай, але беларускай і, што на землях украінскіх, мова ўкраінская сапраўды мела так-жа поўную свабоду.

Добрыя былі часы! Дык трэба старацца, каб яны назад вярнуліся і пры гэтым добрай лазы трэба даць усім гэтым „Малым гісторыкам“, якія для павароту гэтых сьветлых часоў шкодныя пішуць байкі. **Z.**

# Літэратурны аддзел.

## ПАДЫМІСЯ НАРОД!

На радзімай ральлі шмат ўзышло кукалю,
Горда ўзраслося ўвакол зельле дзікае;
і паганіць яно нашу родну зямлю,
заглушае дабро нам вялікае.
І праз гэта народ наш цярпіць так бяду,
есьць ня мае чаго, босы, змучаны;
а за то, што ня рве гэта зельле—брыду,
часам кажуць, што ён глуп, нявучаны.
Падыміся-ж тады, люд крывіцкі, стары,
бяры вілы, нажы, сярпы з косамі,
падкруці бадзярней свой ты вус да гары
і касі, ты пракос за пракосамі.
Ачышчай ты ральлю ад куколю—сьмяцьця,
грамадой запей песьні жнейныя,
каб ад песьняў такіх Край наш ўстаў з нябыцьця,
каб пачуў увесь сьвет, што мы дзейныя!...

**Ул. Казлоўшчык.**

## ПАН І САБАКА

(з Красіцкага)

Брахаў цюцька ў ночы і пана сьцярог —
Назаўтра набілі, бо пан спаць ня мог.
Спаў цюцька ў ночы — хтось пана абкраў.
Ізноў цюцьку набілі, што ён не брахаў.

**Я. Быліна.**

## МУХА І ВОЛ.

З павучыньня муха ўцячы не магла —
„Ратуй, браце, мяне!"—яна просіць вала.
Рогам вол ў павуцьцё даў, муха паляцела—
У вала на хрыбце смактаць кроў яна села.

**Я. Быліна.**

## МІЦКЕВІЧ І МУРАЎЁЎ.

Міцкевіч раз з Вільні пасьпешна ішоў.
Глядзіць, аж у Вільню ідзе Мураўёў.
„Чаму ідзеш з Вільні?" паэта спытаў.
„Бо дух мой у Вільні, як бачу прапаў."
„А мой трыўмфальна пайшоў па ўсім краю.
І вось да Вільні, як бачыш, сьпяшаю.

**Я. Быліна.**

# Зважай...

Чуеш, гром
Гудзе кругом...
Пяруны трашчаць,
Маланкі блішчаць
Асьляпляюць...
Ты ідзеш
Ўсё далей...
Куды?
Прыпынку шукаеш—
Ці знойдзеш дзе?
Не станавіся пад дрэва...
Не хавайся за камень...
Не ляці бягом...
Бо пяруны кругом...
Спыні разгон.
Глянь.
З усіх старон
Хмары плывуць...
Ты стаі
Не лягай,
Пачакай.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось бура мінае,
Зусюль разсьвітае.
Глянь.
Вясёлкавы прамень,
Надзеі цень
Чарам усьміхнуўся...
Бура з грозным шумам,
З жудой і сумам,
З грукатам і трэскам
Пайшла далей.
Затое ты,
*Victor*,
Ты буру змог.
Цяпер глядзі
Далей ідзі
Сваім шляхом.
Твой дух змацніць
Сонца
Сваім сьвятлом...
Ідзі і вер
Далей у перамогу..
У сілу перамогі.

*Марвіч.*

* * *

Вечар сьмяецца вось так, як калісьці,
Дрэвы шапочаць
І сны сьняць паціху,
Вецер цалуе лістоў аксаміты.
З ціхай усьмешкай
Калышуцца лісьці.
Вечар спакойны блакітнага лета
Прошлых часоў уваскрашае ўспаміны.
Зноў мне згадаліся вочы дзяўчыны,
Прошлыя мроі
Згадаліся гэта,
Зноў абудзіліся песьні каханьня,
Эрос крануўся да струн маей ліры
песьняй азваўся
спакойнай
Шчасьлівай.
Смутку няма ў ёй ні каплі,
ні званьня,
Палкасьцю гэтая песьня
ня дыша,
п‘янай чаргою завіхраных
думкаў,
кроў не хвалюе мне
Бурай цалункаў,
мроямі, сном толькі
ціхім калыша.

**Аўг. Бартуль.**

## ЛЮБІ СВОЙ КРАЙ!

Любі той край, мой браце мілы,
Гдзе песьня жалю раздаецца;
Дзядоў заросшыя магілы
І ўсё, што родным тут завецца.

Любі народ наш беларускі,
І ўсё, што ёсьць у нашым краю.
І той загон на полі вузкі
І песьню птушачак у гаю.

Любі і хмару, што над хатай
З гразой панура пралятае
І песьню зычну, што араты,
За плугам ходзячы сьпявае.

Любі лясы і цёмны гаі,
Дзе так свабодна сэрца б‘ецца,
Дзядоў старыя абычаі,
І ўсё, што родным тут завецца.

Любі той край, мой браце мілы,
Гдзе многа бед і сьлёз бязконца,
Працуй, змагайся з цэлай сілы,—
Блісьне і нам калісь мо‘ сонца...

**Ар-Ар.**

## ЛЕТНІ ВЕЧАР.

Вакно адчынена...
дзесь пахне мак.
Гальлём па шыбіне
скрабе вішняк.
З прасоньня туліцца
да рам лісток.
Заліў усю вуліцу
вячэрні змрок.
Заход у золаце,
а за сялом, —
вясковай моладзі,
вясеньні — гом
Калыша водклікі
нямы прастор.
Па росах — вобліскаў
цьвіце — узор.
Салодка мроіцца,
як пахне мак,
як зоры роюцца,
як сьпіць вішняк.

**М. Машара.**

## ТАМ ХМАРКА ЗА ХМАРКАЮ ЎЕЦЦА.

Гляджу безнадзейна у даль —
Там хмарка за хмаркаю ўецца
І сэрца агортвае жаль,
Трывожна ў грудзях яно б‘ецца.
Раптам прышлі успаміны —
Іх хмары прынесьлі з сабою;
Ўваскрэсьлі тыя часіны,
Калі я кахаў усей душою.
Хлынулі сьлёзы у вочы,
Іх сэрца не магло устрымаць...
Ночы, чароўныя ночы!
Гдзе вы, гдзе цяпер вас шукаць?
Хмарка за хмаркаю ўецца
Плыве ціха, спакойна у даль,
Сэрца забытае б‘ецца —
Ўспаміны, туга ў ім і жаль.

**Леанід з пад Вішнева.**

Пётр Чабор.

# Замошская рэспубліка.

(Працяг, гл. „Ш. М." № 7)

—„Гэта праўда, што няма ў нас ні солі, ні жалеза, ні газы—сказаў Лявон — але ці-ж другія дзяржавы ўсё маюць, што патрабуе чалавек? А ці дагэтуль ты дарма даставаў, хоць усё гэта і было ў Расеі? Будзем мець хлеб, лён, лес, то за гэта дадуць нам ня толькі солі, але і шоўку, золата, чаго толькі захочам. А што пану Альшэўскаму не падабаецца, дык няма дзіва, бо Беларусь была-б мужыцкая, а не панская, і падзяліла-б зямельку паміж тых, хто на ей працуе, а ня так, як ён, атрымлівае толькі арэнду ды недзе ў гарадох замежных пражывае чужую працу."

—„Бачыш, няма ў нас ані хвабрык, ані грошай"—дадаў Франук Андронаўскі.

—„Што кажаш, дзядзька!—крыкнуў Янка—ці-ж хвабрыкі як грыбы растуць? Трэба будаваць, а пакуль будуць чужынцы, то хто-ж іх тут збудуе? Усе яны дбаюць аб сваім краю, аб сваіх людзях, і дзеля гэтага ўсё будуюць толькі ў сябе. А глядзі, колькі вольных рук знашло-б сабе працу на хвабрыках, ці заводах, каб яны былі тут? Дзе-ж цяпер дабярэшся ў чужы край? А нават калі-б і папаў туды, дык ня прымуць, бо даюць працу ў першую чаргу толькі сваім. А грошы? Гэта-ж паперкі! Вось стала, напрыклад, Польшча, надрукавала свае грошы, Латышы—свае, Ліцьвіны свае. А была-б наша рэспубліка, то надрукавалі-б грошы і мы, а пасьля набудавалі-б і хвабрык і заводаў."

—„Гэта ўсё праўда, але вось бяда, што кругом нас мацнейшыя суседзі і хоць быццам, як кажуць, яны—нашыя браты, але каб род людзкі лепей у вочы ня бачыў такіх братоў—загаманіў Апанас з Весялухі. — Каб пазбавіцца іх апекі патрэбна сіла, а ў нас яе няма: ні войска, ні аружжа."

—„Ну што-ж—адказаў Янка—браты, то павінны дабравольна выехаць з нашага краю; а затрымаюцца, то знойдзем сілы змусіць іх гэта зрабіць."

—„Так яны цябе і паслухаюць—бурчэў стары Антон.— Вось цяпер мы - вольныя, а праз тры-чатыры дні ізноў прыйдзе якаясь навальніца. Безаружаны, бяз войска, браток, як бяз рук, бо шануюць цяпер на сьвеце ня праўду матку, а сілу."

—„Дык трэба стварыць гэтую сілу, сарганізаваць усіх беларусаў у вадно, тады можна інакш загаварыць і з „братамі", аб якіх успамінаў дзядзька Апанас, бо прывыклі яны нас бачыць, як жывёлу, на якой кожны садзіцца, кожны едзе. Час скінуць гэтых яздуной," сказаў Лявон.

—„Праўду кажаш, браток, час паказаці ім дарогу да сваіх хат," загаманілі дзядзькі.

„Ну, а пакуль-што — не унімаўся Янка — давайце

аб'явім Замошскую рэспубліку вольнай і незалежнай."

—„Гура! Гура! Гура!" дружна падхапілі гэты крык некалькі галасоў.

Праз нейкі час дружнае „Ад веку цярпелі..." панясьлося ў паветры, пакацілася ў лес, на мох. Мала хто верыў у зьдзейсьненьне сяньня шчасьлівай іх думкі, але сьлёзы стаялі ў вачох і радасьць малявалася на тварах.

„Няхай гэта будзе думка-лятуценьне — казаў Лявон,— але яна зарадзілася на вёсцы, яна укараніцца ў галаве кожнага селяніна і праз нейкі час зьдзейсьніцца. Не дачакаемся мы, так дачакаюцца нашыя дзеці, а Беларуская Рэспубліка будзе!"

„А як-жа далей будзем рабіць? Трэба-ж выбіраць прэзыдэнта?—сказаў Якуб.—Амаль усе ў зборы, дык трэба хоць тымчасовую ўладу выбраць."

„Я проціў выбараў прэзыдэнта—становучча заартачыўся Янка—бо што ж такое прэзыдэнт, амаль тое самае, што і цар. Лепей так, як было ў нашых дзядоў: важнейшыя справы вырашаем усе вечам пакуль нас нямнога, а замест князя, ці прэзыдэнта, выбярым пакуль-што трох старшын."

—„Вось гэта добра! Згода, згода!" —раздаліся галасы.

—„Я прапаную выбраць ад старшых Апанаса з Весялухі, ад сталых мужчын—Лявона, а ад моладзі—Янку"— крыкнуў Франук.

—„Вось добра прыдумаў. Няхай жыве наша рэспубліка! Няхай жывуць нашы старшыны! "—вясёлыя раздаваліся воклікі.

Забыліся аб вайне і аб тым, што можа хто падслухаць, данясьці. Радаваліся, як быццам атрымалі найлепшую вестку. А тымчасам гарматнія стрэлы сталі чутней і чутней. Нарэшце пачулі нейкі сьвіст-гудзеньне над галавой. Пачалі страляць праз іх вёску. Спачатку мужчыны жартавалі, раючы адзін другому падставіць шапку, або галаву, каб затрымаць ворага на сваей зямлі, але калі стрэлы сталі даволі частымі, нізка, з сярдзітым вурчэньнем, пралятэлі над вёскай, то ўсе кінуліся хутчэй да сваіх хат, каб загадзя схавацца у бліндажох.

Два дні слухалі гэтую музыку. Ціха сядзелі сяляне па сваіх хатах, ці бліндажох, так, што старшынам новай рэспублікі ня было патрэбы і магчымасьці прыступаць да выкананьня сваіх абавязкаў. На трэці дзень наша рэспубліка была занята атрадам „братоў."

Толькі тры дні жылі вольным жыцьцём сяляне. Думка, што зарадзілася пад гукамі гарматніх стрэлаў, не пакідала іх. Агонь запалены тлее ў душы кожнага, чакаючы на час, калі будзе мець магчымасьць разгарэцца полымем. А нашых сяброў—Апанаса Весялушскага, Лявона і Янку і сяньня яшчэ называюць суседзі „старшынамі", а яны чакаюць гадзіны, калі народ пакліча іх да выкананьне сваіх абавязкаў.

# Лiсты.

## БУДЗІМСЯ І МЫ.

**Табарышкі,** Віленскага пав. Чытаючы „Шлях Моладзі“, няраз знаходзіў я весткі з усіх куткоў Заходняе Беларусі, што беларуская моладзь, памятуючы аб сваей Бацькаўшчыне, працуе на карысьць адраджэньня Беларусі. І я таксама маю прыемнасьць апісаць, што й наша моладзь таксама працуе на карысьць Бацькаўшчыны, хоць мае вялікія перашкоды з боку кс. пробашча М. Воўк-Карачэўскага, які з ўсіх сіл і рознымі спосабамі стараецца здушыць беларускасьць. Нядаўна моладзь наша залажыла гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў вёсцы Кірдзееўцы, пры ім-жа адчынілі бібліатэку-чытальню, а так-жа пашыраюцца беларускія кніжкі і газэты, як: „Беларуская Крыніца“ **„Chryścijanskaja Dumka“**, і зачала моладзь чытаць „Шлях Моладзі.“ Толькі нажаль, вельмі мала могуць чытаць гражданкай, маючы аднак зацікаўленьне, вучацца гражданкі. Гэта вось сьведчыць, як патрэбна беларуская школа, каторай нам так трудна дастаць.

Моладзь наша пераважна каталіцкая і ў гэтым кірунку таксама пасунулася ў перад, бо многа хто ўжо пяе беларускія песьні, моліцца на беларускіх малітвеніках „Hołas Dušy“, „Boh Z nami“.

Адным словам, моладзь наша хутка йдзе ўперад і сьпяшыць да адраджэньня сваей культуры, сваей Бацькаўшчыны.

Хай-жа праца ў гэтым кірунку яшчэ больш разьвіваецца!

**Я. Ярмалковіч.**

## БАЦЬКІ ПАМЯТУЮЦЬ АБ ДЗЕЦЯХ.

**Клецк,** Нясьвіскага пав. У 1925 г. сяляне суседніх вёсак зразумеўшы, як патрэбна для дзяцей родная школа, падавалі дэклярацыі на адчыненьне беларусхіх урадавых школ. Аднак школьныя ўлады ня ўзялі гэтага пад увагу і ні аднэй беларускай урадавай школы ў гэтых вёсках не адчынілі. У гэтым годзе гэтыя-ж сяляне ізноў хочуць падаваць дэклярацыі, толькі баяцца, што з гэтага нічога ня выйдзе.

Вось-жа я хацеў-бы зьвярнуць увагу, што ня гледзячы на перашкоды, трэба нам дамагацца, пакуль не дадуць належнай нам роднай беларускай урадавай школы.

Кожды сьведамы беларус павінен ведаць, што беларуская моладзь можа нармальна здабыць асьвету і выхаваньне толькі ў роднай школе. Дзеля гэтага ўсе павінны зложыць дэклярацыі на адчыненьне беларускіх урадавых школ. Пры тым трэба памятаваць, што 31 сьнежань ужо не далёка. Як цяпер ня зложым дэклярацыяў, дык ізноў год будзем бяз роднай школы.

Ратуйма-ж, браты беларусы, сваіх дзяцей ад цемнаты!

**Званок.**

# Хроніка.

**Т-ва „Будучыня“.** 22 лістапада адбылося першае арганізацыйнае паседжаньне Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня“. На паседжаньні быў прыняты праз прысутных статут, выбраны закладчыкі, а так-жа пастаноўлена, што Т-ва будзе мясьціцца ў памешканьні Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху Моладзі“ — Вільня, Завальная вул. 6 кв. 10. 2 г. м. Статут Т-ва паданы ўжо да зацьверджаньня ў Гарадзкое Старостваў Вільні.

**400-лецьце Літоўскага Статуту.** 30 г. м. у Вільні мае быць наладжана ўрачыстая акадэмія з прычыны 400-лецьця Літоўскага Статуту.

**Адкрыцьцё бібліотэкі-чытальні.** 16 г. м. у памешканьні на Людвісарскай вул. № 1 кв. 32 адбылося адкрыцьдё беларускай бібліотэкі-чытальні Беларускага Інстытуту Гасп. і Культ. Бібіотэка-чытальня адчынена штодня ад гадз. 5—7.

**Беларуская мова ў царкве.** Пятніцкая царква ў сваім часе на дамаганьне віленскіх праваслаўных беларусаў была дана для іх-жа карыстаньня. Вось-жа пасьля грунтоўнага рэмонту гэтай цэрквы, 10 г. м. адбылося ўрачыстае пасьвячэньне яе архіяпіскапам Хвядосам. У часе высьвячэньня была сказана навука па беларуску. Ад гэтага часу будзе кожную нядзелю багаслужэньне, у якім так-жа будзе і беларускае казаньне.

**Урачыстая акадэмія.** 17 г. м. у салі Віл. Бел. Гімназіі з прычыны 10 угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча адбылася ўрачыстая акадэмія, ладжана Беларускім Студэнскім Саюзам і Дырэкцыяй Віленскай Беларускай Гімназіі.

**Вучнёўскі суботнік.** 1 г. м. вучні Віл. Бел. Гімназіі ладзілі ў сваей салі вучнёўскі суботнік. Былі пастаўлены дзьве п'есы: „На вёсцы“ і „Пярэстая красуля“, пасьля адбыліся скокі.

**Новыя гурткі Беларускага Інстытуту Г. і К.** У пачатку г. м. заснаваліся новыя гурткі Б. Інст. Г. і К. у в. Малая Боркаўшчына, Маладэчанскага пав., і ў в. Крупелі, Шчучынскага пав.

**Спэктакль-вечарына ў Клецку.** Дзякуючы стараньню дырэкцыі і вучняў Клецкай Беларускай Гімназіі 5.X. с. г. была наладжана беларуская вечарына, на якой адыграна была драма ў 4-х актах „Апошняе спатканьне“ Фр. Аляхновіча. Артысты-аматары-вучні беларускай гімназіі на чале з сваім вучыцелем ў ролі Якіма, удала выканалі свае ролі. Публікі было вельмі многа ня толькі з мястэчка, але і з вёсак нават за 10 вёрст. Падобныя вечарыны многа прычыняюцца да падняцьця культуры і пашырэньня беларускага нацыянальнага руху.

**Т-ва „Рунь“**. У Беластоку нядаўна заснавалася беларускае Выдавецка-асьветнае каапэратыўнае Т-ва „Рунь“.

**Пасол Пігулеўскі.** У зьвязку з акадэміяй 10-х угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча прыяжджаў у Вільню беларускі пасол у Латвійскі Сойм, а так-жа кіраўнік беларускага аддзелу пры міністэрстве асьветы ў Латвіі гр. Пігулеўскі

**З жыцьця беларускага студэнства.** Выйшла з друку „Студэнская Думка“ № 1 (12). Ёсьць гэта юбілейны нумар з прычыны 10-ых угодкаў сьмерці Івана Луцкевіча і 400-лецьця Літ. Статуту. Зьмест багаты і прыгожая вокладка.

— Беларускія студэнты, а так-жа літоўскія і украінскія звычаем прошлага году ізноў разам лучацца, арганізуюць супольныя гарбаткі, а нават сарганізавалі беларуска-украінскі студэнскі хор. Вельмі прыемнае зьявішча!

— Баларускае студэнства ў Варшаве, паводле апошніх вестак, таксама арганізуецца

**Аб лемантары Л.-Маеўскага**. Нядаўна вышла кніжка Паляшука, каторую ўлады адміністрацыйныя сканфіскавалі.

**Новая кніжка.** Вышла з друку новая кніжка: Змагары за ідэю“ — драма з вясковага жыцьця. Зьмест паважны. Будзе карыснай для беларускіх аматарскіх тэатраў.

**Склад прэзыдыўму Бел. Ак. Навук у Менску такі:** Ігнатоўскі — старшыня, Бялуга і Я. Колас — віцэ старшыні Пятровіч — сэкрэтар, Матулайтіс, Некрашэвіч, Абрамовіч і Платун — сябры прызыдыуму.

**З жыцьця Польшчы**. 30.X. г. г. марш. Сойму Дашынскі не адкрыў паседжаньня Сойму дзеля таго, што былі ў памешканьні Сойму ўваружаныя афіцэры ў лічбе каля 100 асоб, і хоць гэтага тройчы дамагаўся марш. Пілсудскі. Пасьля гэтага паседжаньне адложана да сьнежня. Ходзяць чуткі, што Сойм будзе распушчаны і што будуць новыя выбары. Урад з Соймам змагаецца. Польская партыя соцыялістычная стаіць да ўраду ўжо ў рашучай апазыцыі.

**З заграніцы.** — У Амэрцы людзі да таго разышліся ў пагоні за грашмі, што нядаўна з гэтай прычыны пацярпелі вялікую няўдачу. Людзі ня хочуць працаваць, зачалі купляць і потым перапрадаваць паперы вартасьцёвыя г. зн. акцыі і інш. Спэкулянты-ж, відзячы такую ахвоту, наўмысна падносілі цэны на гэтых паперах. І вось аднаго дня панесьлі ўсе вялікія страты, бо аказалася, што ўсе гэтыя паперы нават паловы ня варты тэй сумы, за каторую іх купілі. Вялікая лічба багатыроў асталася жабракамі. Гэты дзень прынёс 40 мільярдаў даляраў страты; і так больш 50 тысач асоб утраціла свой капітал.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

У Англіі адбыліся выбары да самаўрадаў — перамогу вынесла работніцкая Партыя Працы.

— У Чэхаславачыне адбыліся выбары — страту панясьлі камуністы на карысьць сацыял-дэмакратаў. Цяпер Чэхаславаччына перажывае урадавы крызыс.

— У Кітаі з бальшавікамі і далей вядзецца партызанская вайна.

— У Літве ў пачатку 1930 г. маюць быць выбары Прэзыдэнта, а пасьля сойму.

— У Югаславіі сэрбы з харватамі ня ладзяць. — Гэта вельмі не наруку для дзяржавы.

## Усячына.

**Найбольшыя бібліатэкі.** У Парыжы нядаўна вышла кніжка аб арганізацыі бібліатэк. Паводле гэтай кніжкі найбольшай бібліатэкай на сьвеце ёсьць бібліатэка нацыянальная ў Парыжы, маючая 4 з паловай мільёнаў томаў (кніг). На другім і трэцім мейсцы стаяць дзьве бібліатэкі ў Пецярбурзе, на чацьвёртым бібліатэка ў Вашынгтоне, пятае мейсца займае бібліатэка Леніна ў С.С.Р.Р. — 3 з паловай мільёнаў томаў. Шостае мейсца займае слаўная бібліатэка лёндынская „Брітіш Музэум“ — 3,1 мільёнаў томаў. У Польшчы найбольшая варшаўская ўнівэрсытэцкая бібліатэка, маючая 832.000 томаў.

**Жывы труп.** Нядаўна ў Вене ў цырку выступаў немец Людвік Гуппэр пад імем То-Кагн. Чалавек гэты патрапіў абмерці на 7 з паловай дзён. Практыкуе ён гэта ад 19 3 году і праз цэлы гэты час абміраў ужо 10 разоў. Гэта ёсьць грубы, здаровы, сільны і тлусты чалавек. І калі абмірае, то жывіцца ён сваім тлушчам і дзеля гэтага пасьля кожнага такога экспэрымэнту ўбывае яго на вазе 10—18 кілёгр. Пасьля першага разу абміраньня чалавек гэты зусім пасівеў.

**Можна габляваць шкло.** Англійскія газэты пішуць, што іхны хімік з унівэрсытэту ў Лівэрпулі праф. Ф. Ц. Бобы з сваім сынам, вытварыў такое шкло, каторае ёсьць празрыстым і каторае можна габляваць, стругаць, як дрэва. Шкло гэтае ня ломіцца і не баіцца агню,

## Наша пошта.

Кс. В. Шутовічу. Шчыра дзякуем за прысланыя 17 зл. на „Ш. М.“

Я. Пылінскаму: Часопісь „Сьвет“ ня выходзіць здаецца з прычын незалежных ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

Дз. Крупскаму. 3 зл. і 50 гр. атрымалі, дзякуем. Трэбаваныя вамі нумары выслалі.

К. Пчале. Просьбу спаўняем, пашырайце „Шлях М.“ і пішыце карэспандэнцыі.

Кс. пр. К. Кулаку: №№1, 2, 3 і 6 „Ш. М.“ выслалі.

Леаніду з пад Вішнева. Як бачыце, вершы вашы зьмяшчаем, пішыце да нас.

Атрахімовічу Аркадзю. Вашы вершы, каторыя Вы пакінулі ў сваім часе ў Рэд. „Б. Крыніцы“ для нашай Рэдакцыі, да друку падходзяць, але яны не падпісаны, паведаміце, як іх падпісаць, у наступным нумары друкавалі-б. Чакаем абецанага.

К. Матусэвічу. Часопісь высылаем. З матэр'ялаў скарыстаем у наступным нумары, дзякуем, просім пісаць больш.

Падарожнаму. Карэспандэнцыю зьмесьцім, верш не падходзе, пішыце больш прозай аб вясковым жыцьці.

Я. Плавэйскаму. Календара, якога вы просіце, у нашым Краі няма, ёсьць ён у СССР і дастаць яго ня можана. Па карту Беларусі зьвярніцеся ў кнігарню „Пагоня, у Вільні, Людвісарская вул. № 1.

М. Казаровічу. У Панствову Школу Жэмёсл Будаўляных у Вільні, Мэтрополітальна 4, калі скончылі 4 аддзелы пачатковай (паўшэхнай) школы, можаце быць прыняты. Пішыце туды просьбу і залучыўшы мэтрыку, школьнае пасьведчаньне і дахторскае. Плата пры ўступленьні 16 зл. далейжа 37 зл., пры тым сталаваньне школьнае, трэба толькі мець сваю адзежу і пасьцель. Пачатак школьнага году 4 траўня. Радзім паступаць.

„Шлях Моладзі“ высылаем: Жданку Ан., Пілецкаму К., Жукоўскаму, Сьцяпуру Ан., Гаўрыльчыку, Лаўрыновічу З., Мартышонку. Чакаем абецанай падпіскі.

Атрымалі на „Ш. М.“ ад: К. Пчалы, Кс. праф. К. Кулака, А. Пазьняка, Каленкевіча па 4 зл.; Л. Шыдлоўскага 3 зл.; Добрыяна П., Залескага П., Мыскі Ф., В. Янушкі, Сенкевіча, Косьцюка М., Паваленя А. па 2 зл.; Дз. Крупскага, Л. Кожурна, Плавейскага, М. Казаровіча, Я. Плавейскага па 1 зл. М. Качанюка 60 гр., Ст. Пяткевіча 2 зл. Усім часопісь пасылаем і шчыра дзякуем.